*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 32 (244)

9 жніўня 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

***Маладая Беларусь***

## У будучыню з надзеяй

Я — навучэнец 1 курса Светлагорскага індустрыяльнага тэхнікума. Зараз наша Айчына — Беларусь перажывае цяжкі час, але давайце глядзець у будучыню з надзеяй. Моладзь не адрачэцца ад Беларусі, а гучанне роднага слова будзе шырыцца. Я хачу гэта выказаць вершам:

*Шануйце, людцы, мову і культуру,*
*Не трэба здзекаў над сабой,*
*Хоць зараз час настаўануры,*
*Мы выйдзем з цемры грамадой!*

**Сяргей КАВАЛЬЧУК.**
г. Светлагорск.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **У Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь распрацаваны новы ўзор пашпартоў з новай сімволікай.** Аднак, на сённяшні дзень выдача пашпартоў з «Пагоняй» працягваецца і іх ужо выдадзена больш за 43 тысячы.

❍ *Бюджэтны дэфіцыт нашай краіны за 5 месяцаў гэтага года склаў 1,8 працэнта да валавога ўнутранага прадукту. Па стану на 1 чэрвеня ў нас было 1930 стратных прадпрыемстваў і арганізацый, г. зн. 22,5 працэнта ад колькасці ўлічаных.*

❍ **У адным з апошніх нумароў «Народнай волі» змешчаны** артыкул Івана Макаловіча «Чаму чырвона-зялёныя сцягі толькі ў Буркіна-Фасо, Беніна, Бангладэш і Беларусі? Хіба месца нашай краіне ў гэтай кампаніі?». Аўтар паведамляе, што дзве трэці сцягоў вядучых еўрапейскіх краін складаюцца са спалучэннаў чырвонага і белага колераў. Менавіта чырвоны і белы — аснова сцягоў усіх славянскіх народаў. Таму дзіўна слухаць некаторых палітыкаў ды і самога Прэзідэнта, якія гавораць пра тое, што мы славяне, а самі адмаўляюцца ад славянскай сімволікі.

❍ ***Па дадзеных Міністэрства адукацыі,*** *з 1 верасня г. г., як вынік рэалізацыі «рэферэндуму», у нашай краіне на 80 працэнтаў адбудзецца адток першакласнікаў з беларускай на рускую сістэму навучання. У якой мы жывём дзяржаве?*

❍ **У Прэзідэнта Беларусі будзе свой архіў.** У палажэнні аб ім адзначана, што прэзідэнцкі архіў будзе спецыялізаваным структурным падраздзяленнем упраўлення справаводства і аргтэхнікі Адміністрацыі Прэзідэнта.

❍ ***Тры беларускія тэатры:** «Дзе — Я?», **Альтэрнатыўны тэатр і «Вольная сцэна» бяруць удзел** у Першым эдзінбургскім міжнародным фестывалі тэатраў, які пачаўся ў Шатландыі.*

❍ **Палётныя выпрабаванні самалёта ТУ-154 М прадстаўнічага класа пачало самарскае АТ «Авіякор».** Новы лайнер прызначаны для Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

❍ *Да канца гэтага года ў Менску будзе адкрыта гандлёвае прадстаўніцтва Ісламскай рэспублікі Іран.*

❍ **У дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адбылася** прэм'ера новага балета Валянціна Елізар'ева на музыку Андрэя Мдзівані «Страсці» («Рагнеда»).

**АКАДЭМІК А. ВЕЙНІК: У ХАТАХ ПРАВЕДНІКАЎ ВЫПРАМЕНЬВАННЕ ШМАТ СЛАБЕЙ**
Стар. 3.

# *У родным краі ёсць крыніца жывой вады...*

Свята ў Ракуцёўшчыне

Белыя буслы кружлялі над зялёнымі пагоркамі, над залацістымі палеткамі, пад гукі беларускай песні... Штандар, які па волі прыезджых юнакоў і дзяўчатаў развяваўся на сінім фоне неба, да дзіўнага паўтараў колеры бусла: белы—чырвоны—белы... «Блакіт нябёс і белы бусел...»

«Яны часта лётаюць тут, — сказаў пра крылатае ўвасабленне беларушчыны Алесь Бяляцкі, дырэктар Менскага музея Максіма Багдановіча, прылятаюць і садзяцца на страху клеці — просяць, каб паклалі там для іх кола...»

Тут трэба патлумачыць, што адбылася дзея 27 ліпеня 1995 года, у Ракуцёўшчыне, каля філіі музея Багдановіча, на свяце паэзіі, якое адбываецца штогод у Дзень Незалежнасці. А клець, пра якую ішла гаворка, — частка мемарыяльнай сялібы, адкрыццё якой прымеркавана да сённяшняга дня. Са значэмства з новай экспазіцыяй і пачалося наша наведванне сьвяточнай Ракуцёўшчыны. Клець пакрытая сапраўднай саломай. Унутры — рамантычны прыцемак і пах сасновай смалы. Вочы паступова прывыкаюць да няяркага асвятлення. Экспанаты, сабраныя тут, ілюструюць побыт сялян пачатку стагоддзя — газоўка, што вісіць пад столлю, ля самых дзвярэй — шаргуны-званочкі, якія надзявалі на шыю коней пад час вяселля. Вялікі куфар для пасагу. А вось боты — такія насілі сто год таму: бліскучыя, чорныя, падбітыя цвікамі... У такіх і сёння не сорамна прайсціся... Плеценыя з лазы кошыкі, сявенькі, куфэркі... А вось прылады для майстравання — ад гэбляў да капылу... А ў куце вялікая ступа. «У такой Баба Юга лётала», — тлумачу я маленькім наведнікам, і малечы спалохана пазіраюць у бок небяспечнага прадмета. Але цяпер у ступу насыпанае

*(Заканчэнне на с.8.)*

**ЧЫТАЛІ? ГАЗЕТА «ЛІТВА»**
Стар. 7.

## Запрашаем у «Акопы»

26 жніўня ў музеі-сядзібе «Акопы», што ў вёсцы Харужанцы на Лагойшчыне, пройдзе свята паэзіі — Спасаўскі кірмаш. Удзельнікі свята ўскладуць кветкі да помніка вялікаму паэту, агледзяць экспазіцыю музея Янкі Купалы і фотавыставы Альберта Цэхановіча «Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так мясцінах...» (Сцежкамі Янкі Купалы).

У гэты ж дзень святары асвецяць Купалаву крынічку, якая выбіваецца з глыбінь зямлі, як сімвал невычэрпнай паэзіі Янкі Купалы. Апоўдні, у амфітэатры, на зялёнай паляне, пачнецца паэтычна-музычны Спас з удзелам вядомых фальклорных калектываў і артыстаў.

Дабрацца ж у вёску Харужанцы не так і цяжка. Ад станцыі «Кульман» ходзяць рэйсавы аўтобус Менск—Янушкавічы (7-30 і 10-00). Ідзе аўтобус па Даўгінаўскім тракце, якому паэт прысвяціў радкі прызнання:

*Знаёмы гэты мне шлях родны, —*
*Даўгінаўскі вядомы шлях.*

**Мікола ЧЫРСКІ.**




Гравюра Міколы КУПАВЫ.

# «ВКЛ» крочыць у будучыню, памятаючы мінулае

**«Я — мужык-беларус, пан сахі і касы» — дагэтуль дэкламуюць школьнікі на ўроках літаратуры, замацоўваючы ў свядомасці гэты вобраз. Але ж новы час нарадзіў новае пакаленне беларусаў, якое сёння займае месца колішніх «мужыкоў» і «калгаснікаў маладых» ды тых з адраджэнцаў, для якіх беларускасць непарыўна звязаная з мітынговай агітацыяй.**

**Прапануем увазе чытачоў гутарку нашага карэспандэнта з прадстаўніком гэтай новай генерацыі беларусаў — тых, якія самі вызначаюць лёс свой і сваёй краіны. Гэта — Уладзімір Крупскі.**

**Кароткі жыццяпіс: нарадзіўся і вучыўся у Асіповічах. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Маскоўскім авіяцыйным інстытуце, пасля працаваў у НДІ касмічнай тэматыкі. У 1991 годзе вярнуўся ў Беларусь, у 1992-м заснаваў навукова-вытворчую фірму «ВКЛ», якая займаецца продажам каправальнай тэхнікі і апаратуры тэлекамунікацый вядучых японскіх фірмаў, першай у краіне атрымаўшы на гэта сертыфікат. Сярэдні ўзрост супрацоўнікаў фірмы, уключаючы дырэктара, — 30 гадоў.**




**— Сярод дзесяткаў і соцняў фірмаў, якія змяшчаюць у друку сваю рэкламу, Ваша адрозніваецца ўжо тым, што робіць гэта па-беларуску ды за назву ўзяла абрэвіятуру, якую нашы чытачы разумеюць адназначна. Чаму менавіта так?**

— Рэгіструючы фірму, я мог надаць ёй назву якую заўгодна, але спыніўся менавіта на гэтай, бо і сапраўды меў на ўвазе назву колішняй нашай дзяржавы. «ВКЛ» — напамін аб дзяржаве, у якой нашы продкі былі гаспадарамі. Ствараючы фірму, я памятаў пра гэта і спадзяваўся, што не з'яўленне будзе лепшым крокам да таго, каб у сваёй краіне адчуць сябе гаспадаром, а не госцем. Фірма мае такую назву і звяртаецца да людзей па-беларуску яшчэ і таму, што збіраецца пакінуць след не толькі ў эканоміцы, але і ў свядомасці людзей, нагадаць ім, хто яны такія і скуль паходзяць. Таму і апошні наш рэкламны блок прымеркаваны да ўгодкаў Грунвальдскай бітвы. Мы доўга шукалі словы, з якімі маглі б звярнуцца да людзей, не толькі рэкламуючы сябе, але і нагадваючы ім пра адзінства нашага лёсу, і, здаецца, знайшлі іх — «твая перамога, твая гісторыя».

Адразу патлумачу: мы не імкнёмся выкарыстаць гістарычныя падзеі як сродкі рэкламы. Вобраз, які мы сабе ствараем, — гэта проста адлюстраванне светапогляду і майго, і ўсіх нашых супрацоўнікаў.

**— У час, калі была створана Ваша фірма, грамадства знаходзілася яшчэ ў стане эйфарыі, чакаючы прагрэсіўных палітычных, эканамічных пераўтварэнняў, хуткага поспеху адраджэнскага руху...**

*(Заканчэнне на с.2.)*

**Шаноўныя чытачы!**

Пачалася падпіска на перыядычныя выданні нашай краіны на чацвёрты квартал 1995 года. Падпісны кошт на «Наша слова» па Менску і па Беларусі складае на адзін месяц: 2000 рублёў, на тры — 6000 рублёў. Падпісацца на «НС» можна ў любым паштовым аддзяленні. Не адкладайце гэтую справу на потым і памятайце, што падпіска закончыцца 31 жніўня. Наш індэкс 63865.

# ДА ЎВАГІ БАЦЬКОЎ!

Апошнім месяцам да нас даходзяць трывожныя весткі пра тое, што ў многіх школах, якія на працягу некалькіх гадоў паспяхова навучалі дзяцей па-беларуску, пэўныя работнікі адукацыі сталі або адгаворваць бацькоў запісваць дзяцей у беларускія класы, або палохаць, або проста груба адмаўляцца прымаць заявы.

Што ж здарылася сёлета? Чаму ў Беларусі, дзе апошнія 5 гадоў практычна не было сур'ёзных непаразуменняў у школах на нацыянальнай глебе, раптам пачалася масавая дыскрымінацыя беларусаў па нацыянальнай (моўнай) прыкмеце?

Так, прайшоў ганебны рэферэндум. Але хіба ён адмяніў дзяржаўнасць беларускай мовы? Не! Дзяржаўнасць беларускай мовы замацаваная арт. 17 Канстытуцыі, а святы абавязак дзяржавы падтрымліваць захаванне і развіццё беларускай мовы замацаваны ў Дэкларацыі аб суверэнітэце. Тады, можа, адменены законы «Аб адукацыі» і «Аб мовах»? Не!

У гэтых умовах мы лічым неабходным сказаць бацькам: помніце, улады мяняюцца, а Вашым дзецям давядзецца заканчваць школу ў 2006 годзе. Безумоўна, наш народ ужо не адмовіцца ад свабоды, і праз некалькі гадоў ідэалы здаровага сэнсу і дэмакратыі будуць у пашане, як і ва ўсім свеце. Шкада толькі будзе змарнаванага часу і страчаных магчымасцяў.

Таму, каб не страціць час, не пазбавіць сваіх дзяцей перспектывы — аддавайце дзяцей вучыцца ў беларускія школы і класы. Калі ж Вы сутыкнуліся з цяжкасцямі пры ўладкаванні дзяцей вучыцца па-беларуску — на Вашым баку Закон і права вучыць дзяцей на беларускай мове. Будзьце настойлівыя!

Канстытуцыя дае Вам поўнае права, каб дзеці атрымалі адукацыю на беларускай мове. Любыя спасылкі адміністрацыі школ на тое, што ў беларускі клас не набіраецца дзяцей — незаконныя. Рэкамендуемая Міністэрствам адукацыі норма 15 ці 25 вучняў у класе — гэта норма эканамічнай абгрунтаванасці, якая ніякага дачынення да выбару мовы навучання не мае. Колькасць вучняў у класе — не бацькоўскі клопат. Школа павінна вучыць на беларускай мове і аднаго вучня, што рабілася нават у 80-я гады. За невыкананне гэтага юрыдычную адказнасць нясе дырэктар школы.

**ШТО РАБІЦЬ,**
калі адмаўляюцца прыняць Вашую заяву для навучання дзіцяці па-беларуску?

Запішыце прозвішча, імя, пасаду настаўніка, які вядзе прыём дакументаў, а таксама прозвішча і імя дырэктара школы, зноў карэктна папрасіце прыняць заяву і зарэгістраваць яе ў спецыяльным журнале.

Калі Вам зноў адмовяць, папрасіце напісаць прычыну адмовы Вашай заяве і засведчыць яе подпісам. Калі ж гэтага настаўнік не выканае — патрабуйце, каб гэта зрабілі завуч або дырэктар школы.

Калі, нягледзячы на ўсе намаганні, Вам адмаўляюць у прыёме заявы, звяртайцеся па дапамогу па наступных тэлефонах:

г. Мінск
— Заводскі раён 46-98-28, 24-69-13;
— Ленінскі раён 21-09-24;
— Маскоўскі раён 71-07-52, 71-95-16;
— Першамайскі раён 60-12-74 (з 19 да 22 гадзін);
— Фрунзенскі раён 50-05-54;
— Цэнтральны раён 34-07-61, 37-56-12;
— астатнія раёны Мінска 33-50-12;
іншыя рэгіёны Беларусі (0172) 33-25-11, (0172) 46-46-91,
(0172) 33-50-12.

Таксама пішыце на адрас: 220034, г. Мінск, вул. Румянцава, 13, ТБМ.

Чыноўнікі імкнуцца русіфікаваць школу, не пакінуўшы дакументальных слядоў. Таму настойліва просім дасылаць нам звесткі аб кожным парушэнні. У звестках пастарайцеся напісаць:

— у якой школе Вам адмаўлялі ў праве вучыць дзіця па-беларуску або спрабавалі гэта зрабіць; прозвішча, імя і пасаду таго, хто гэта рабіў; дату, калі Вы звярнуліся ў школу; ці мае школа статус беларускай і колькі было там беларускіх класаў у мінулым годзе; прозвішча дырэктара школы; коратка апішыце абставіны, якімі суправаджаліся Вашыя «прыгоды»: на якой падставе Вам адмаўлялі, хто і што казаў, чым палохалі і г. д.; свой адрас, тэлефон.

Мы спадзяёмся на Вашу настойлівасць.

**Грамадскі каардынацыйны камітэт абароны беларускай мовы.**

# «Belarus Monitor»: прэзентацыя спецвыпуску

Нацыянальны цэнтр стратэгічных ініцыятываў «Усход—Захад» перад запрошанымі палітыкамі і журналістамі правёў прэзентацыю свайго спецвыпуску «Belarus Monitor», прысвечанага сёлетняму «першаму туру» парламенцкіх выбараў.

Беларусь дэмакратычная на гэтых выбарах пацярпела паразу. Чаму? Адказаць на гэтае пытанне спрабуюць аўтары спецвыпуску — вядомыя палітолагі, навукоўцы і журналісты Леанід Заіка, Вольга Абрамава, Андрэй Вардамацкі, Міхаіл Чудакоў, Георгій Максюта, Святлана Навумава, Алег Грудзіловіч, Анатоль Майсеня, які з'яўляецца прэзідэнтам НЦСІ. У сваім уступным слове ён паспрабаваў абагульніць сумныя вынікі выбараў-95.

— Мы, і тут я бяру на сябе смеласць выступаць ад імя ўсяго аўтарскага калектыву, — заўважыў А. Майсеня, — поўнасцю дапускаем, што ў канкрэтных аўтараў і чытаючай публікі могуць з'явіцца сур'ёзныя разыходжанні ў поглядах і ацэнках таго ці іншага аспекту парламенцкіх выбараў ды іхніх вынікаў. Не здзіўляюся, калі такія разыходжанні знойдуцца і ў самім спецвыпуску, паміж асобнымі аўтарамі. Аўтарская пазіцыя — справа святая, і мы нават не думалі, каб падганяць іх пад шаблон аднастайнасці. Сэнс гэтага выдання бачыцца ў іншым — даць усім, хто зацікаўлены ў захаванні дэмакратыі ў краіне, хто перажывае за незалежнасць і суверэнітэт Беларусі, спажыву для сур'ёзнага роздуму. Справакаваць на роздум. Бо галоўны ўрок парламенцкіх выбараў траўня-95 у тым, што гэта наша агульная параза. Параза ўсёй дзяржавы, усяго беларускага народа, усіх дэмакратычных сіл, усіх партый і рухаў як элемента грамадзянскай супольнасці, і, нарэшце, параза Прэзідэнта. Бо Прэзідэнт з усёй сваёй звышуладай апынуўся ў выніку ў палітычным вакууме. Адсюль шляхі, працягваў выступоўца, або да рэабілітацыі дэмакратычных каштоўнасцей і пачатку сапраўды разгорнутага будаўніцтва грамадзянскай супольнасці і рынкавай эканомікі ў Беларусі, або да дыктатуры ў асобна ўзятай еўрапейскай краіне. Трэцяга няма. Першы шлях праходзіць праз паўторныя парламенцкія выбары восенню гэтага года. Пазбегнуць паўтору памылак мы здолеем толькі ў тым выпадку, калі трывала засвоім урокі траўня 1995-га.

Як падалося аўтару гэтых радкоў, найбольш цікавымі ў спецвыпуску з'яўляюцца даследаванні калегі Алега Грудзіловіча «Роля СМІ ў парламенцкіх выбарах у Беларусі (май 1995 г.)» і палітолага Вольгі Абрамавай «Менталітэт народа Рэспублікі Беларусь і вынікі парламенцкіх выбараў 1995 года».

Хаця, па меркаванню асобных журналістаў, гэтыя працы патрабуюць адпаведных каментараў.

# «Круглы стол» беларускіх палітыкаў

Пасля прэзентацыі свайго спецвыпуску «Belarus Monitor», прысвечанага сёлетнім парламенцкім выбарам, НЦСІ «Усход—Захад» правёў таксама «круглы стол» лідэраў розных партый і рухаў.

Прадстаўнікі кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», жаноцкага руху «Надзея», Грамадзянскай партыі, АДПБ, НДПБ, Хрысціянска-дэмакратычнай партыі і БСДГ, абмяркоўваючы ўрокі травеньскіх выбараў у Вярхоўны Савет, сышліся на тым, што трэба шукаць шляхі пераадолення раз'яднанасці дэмакратычных сіл. У іншым выпадку разлічваць у будучыні на радыкальныя змены палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы не даводзіцца.

Як падкрэсліў у сваім выступе старшыня Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Віктар Навуменка, усялякае яднанне партый і рухаў у перадвыбарчым блокі павінна найперш мець на ўвазе адраджэнне беларускага народа ў яго этнаграфічнай і дзяржаўнай існасцях.

Праўда, гэта сцвярджэнне выклікала, так бы мовіць, «унутраную спрэчку» суразмоўнікаў, бо сёння, на думку многіх палітыкаў, найперш важна захаваць менавіта дзяржаву — Рэспубліку Беларусь, яе незалежнасць і суверэнітэт.

Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.

# «ВКЛ» крочыць у будучыню, памятаючы мінулае

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

**Дэманстрацыя прыхільнасці да беларушчыны тады магла мець поспех. А што адчуваеце Вы цяпер, калі надышлі другія часы?**

— У 1991 годзе, калі я яшчэ жыў у Расіі, у адной з тэлеперадач я ўбачыў новую Беларусь — незалежную краіну з уласнымі гербам і сцягам як сведчаннямі ўласнай гісторыі, з уласнай палітыкай. Вярнуцца дадому я хацеў даўно, а падзеі, што адбываліся на Радзіме, толькі прыспешылі мяне. Можаце называць гэта патрыятызмам, можаце — настальгіяй, але я імкнуўся дадому. Я веру, што змена дзяржаўнай атрыбутыкі азначае не канец, а пачатак новай Беларусі, у якой хацеў жыць і я сам. «ВКЛ» і сапраўды стваралася з разлікам на добрыя перспектывы, бо **тады пачыналіся працэс, які пазней мог бы атрымаць назву «беларускі эканамічны цуд»**. Людзі пачыналі свае справы, не маючы нічога, акрамя ўласных зберажэнняў, сваёй працай стваралі эканамічны падмурак новай, незалежнай Беларусі. Але скончыць пачатае ім, як і мне, не давялося. Разлікі на лепшае не спраўдзіліся. Праўда, засталася надзея. Засталіся нязменнымі і схільнасці, бо беларушчына і дзяржаўнасць нашага народа для нас не кан'юнктура, а надзённая патрэба. А што да змен... Пагоня, нават перастаўшы быць гербам дзяржавы, засталася часткай нашага фірмовага знака. Гэта шмат аб чым сведчыць.

**— Змена сімволікі Вам не перашкаджае, але ж змены кранулі і эканоміку...**

— Як камерсант магу сказаць адно: умовы прадпрымальніцкай дзейнасці цяпер зусім не тыя, што былі пару гадоў таму. Час вялікіх планаў і вялікіх спадзяванняў мінуў. Тыя бізнесмены, якія працавалі, спадзеючыся на ўмацаванне нашай дзяржаўнасці і на спрыянне ўрада нацыянальнаму прадпрымальніцтву, сёння расчараваныя курсам дзяржаўнага кіраўніцтва. У дачыненні да прадпрымальнікаў праводзіцца сапраўдная палітыка «закручвання гаек». Вышэйшай уладай прынята мноства рашэнняў, якія пярэчаць эканамічнаму заканадаўству і могуць прынесці маёй і мностве іншых фірмаў значныя страты. Так, напрыклад, 29 снежня 1994 года быў прыняты новы закон аб падаткаабкладанні. А ў ліпені гэтага года ўдакладненні, прынятыя да гэтага закона, абавязваюць нас плаціць дзяржаве падаткі за тавары, ужо прададзеныя намі пачынаючы з 1 студзеня. Гэта датычыць і іншых падаткаў, якія мы змушаныя плаціць у выніку надання законам зваротнага дзеяння, што не практыкуецца нідзе ў свеце.

Сёння ў Беларусі кожнае палітычнае рашэнне ўлады адбіваецца на нашым становішчы: учора Прэзідэнт выступае з прамовай па тэлевізіі, а сёння я даведваюся, што ў выніку гэтага нашы заходнія партнёры вырашылі адкліказь значную частку ўкладзеных імі сюды сродкаў. Сюды — значыць не проста ў маю фірму, а ў беларускую эканоміку. І заўтра гэтыя грошы будуць працаваць на карысць любой іншай краіны, але ўжо не нашай.

**— Гэта значыць, што беларускія бізнесмены зацікаўленыя ў замацаванні эканамічнага суверэнітэту больш за ўрад?**

— Беларускія бізнесмены — акрэсленне занадта агульнае. Прадпрымальнікі, як і іншыя грамадзяне, маюць кожны свае прыхільнасці, якія найчасцей вынікаюць з патрэбаў іхніх прадпрыемстваў. Таму для адных існаванне беларускай дзяржавы ёсць гарантыя іхняга поспеху, а другіх — жыццёва неабходная інтэграцыя краін былога СССР ці нашага краю з Расіяй, незалежна ад таго, якімі метадамі яна праводзіцца.

**— Якая з гэтых дзвюх групаў мае, на Ваш погляд, найбольшы ўплыў на грамадства?**

— Думаю, што людзей, гатовых працаваць ва ўмовах эканамічнага суверэнітэту, больш нават цяпер. Але яны — уладальнікі пераважна дробных і сярэдніх фірмаў. Прыхільнікі ж інтэграцыі, хай нават і знаходзячыся ў меншасці, маюць, як мелі і ад пачатку, большыя фінансавыя магчымасці. Гэта — прадстаўнікі буйных расійскіх фірмаў альбо беларускія грамадзяне, якія ці стварылі свае фірмы, карыстаючыся сродкамі пэўных палітычных і дзяржаўных структур, ці самі прытрымліваюцца пэўных поглядаў накшталт неабходнасці яднання славянскіх рэспублік былога Саюза.

Асабіста для мяне было б выгадней, калі б улады больш увагі надавалі нацыянальным інтарэсам. Але ні я, ні іншыя прадпрымальнікі не ў стане змяніць сітуацыю сабе на карысць. У Беларусі, у адрозненне ад заходніх дэмакратый, не бізнес уплывае на ўладу, а ўлада вызначае межы нашай дзейнасці.

**— Ці выклікае гэта ў Вас жаданне сваімі сродкамі падтрымаць палітычных ці нацыянальных лідэраў — прыхільнікаў эканамічнай свабоды і абароны інтарэсаў нацыянальнага капіталу?**

— Агульнавядома, што падобныя захады могуць даць непрыемнасці — як для фірмы, так і асабістыя. Успомніце хаця б пастанову аб роўных магчымасцях для кандыдатаў у дэпутаты новага Вярхоўнага Савета, якая паставіла іх у няроўнае становішча! Да таго ж сёння большасць нацыянальных прадпрымальнікаў пастаўлена ва ўмовы, калі даводзіцца думаць не аб фінансаванні нейкіх праграм — палітычных, культурных ці нацыянальных, а аб уласным існаванні.

**— Але ж, наколькі мне вядома, «ВКЛ» сродкі на гэта знаходзіць?**

— Так, хаця не надта вялікія. Найперш гэта датычыць нашай рэкламы, якая гаворыць не толькі аб вартасцях нашых тавараў, але і выказвае нашу пазіцыю ў пытаннях мовы і нацыянальнай культуры. Займаемся мы і фундатарскай дзейнасцю: фірма выступіла спонсарам міжнародных канферэнцый аб беларускай этнакасмалогіі, якія ладзіла таварыства «Крыўе», ды іншых нацыянальна-культурных мерапрыемстваў. Дзіўна, але перашкоды з боку ўладаў мы сустрэлі нават тут, бо заканадаўства дагэтуль не акрэслівае паняцця фундатарскай дзейнасці.

**— Існуе пэўнае падабенства між кірункам дзейнасці Вашай фірмы і ТБМ. Ці не спрабавалі Вы наладзіць з Таварыствам больш шчыльнае супрацоўніцтва?**

— Мы ў сваёй дзейнасці і сапраўды імкнёмся пэўным чынам уплываць на свядомасць грамадства. Але карэспандэнт «Нашага слова» — першы чалавек з боку ТБМ, які звярнуў на фірму ўвагу за ўвесь час яе існавання. Гэта дазваляе мне меркаваць, што супадаюць менавіта кірункі, а не спосабы дзейнасці нашай і ТБМ у падтрымцы беларушчыны. Для нас гэтая дзейнасць — не абавязак сяброў нейкай арганізацыі, а выказ асабістых перакананняў.

**— Вы гаварылі пра існаванне мноства фірмаў, кіраўнікі якіх падзяляюць Вашы погляды. Ці існуе нейкая структура, што яднае і іх?**

— Так, ёсць шмат людзей, гатовых дзейнічаць у рамках нацыянальнай эканомікі нават больш — ствараць гэтую эканоміку, як частку **структуры дзяржавы** беларускага народа з усімі яе прыярытэтамі. Яднанне пайшло б на карысць ім і іхняй справе — нашай агульнай справе. Але, наколькі мне вядома, пакуль робіцца толькі спробы стварэння такой структуры.

Калі ўжо гаварыць пра магчымасці яе існавання, дык трэба напачатку дакладна акрэсліць паняцце «нацыянальны прадпрымальнік», а гэта не проста. Хто гэта — чалавек, які гаворыць па-беларуску, але прадстаўляе і абараняе тут інтарэсы чужой дзяржавы? Альбо той, хто, як і я, амаль не валодае мовай, але змест працы якога — пабудова Беларускага Дому?

Раней Вы ўжо пыталіся пра магчымы ўплыў бізнесменаў на палітыку. Ён існуе паўсюль і, зразумела, аб'яднанне нацыянальных бізнесменаў, калі яно будзе створана, будзе імкнуцца мець сваіх прадстаўнікоў ва ўрадзе. Але на каго мы можам абаперціся сёння? Шмат хто з тых, хто спрабаваў гаварыць ад імя народа, зыходзілі не з рэаліяў, а з уласнага бачання свету і нарабілі мноства памылак, адказным за якія, падтрымаўшы гэтых палітыкаў, адчуў бы сябе і я. Але апошнім часам я бачу спробы зменаў, спробы зразумення таго, што не толькі мова, але і свядомасць дае падставы называць сябе беларусам. Гэта дае мне надзею. Але пакуль што блізкіх сувязяў паміж нацыянальным бізнесам і нацыянальнымі дэмакратычнымі партыямі не існуе. Палітыкі, на якіх маглі б абаперціся, такія, як я, абараняюцца, а не ідуць наперад. У бізнесе гэта абазначае пройгрыш, і гэта прычына таго, што мы не разам. Тым не менш прыярытэт у нас адзіны — Беларусь.

**Распытваў У. ПАНАДА.**

# ВЕРУЕМ

***Душпастары***

## Мучанік

### (Святар Генрых Глябовіч)

9 лістапада 1941 года паміж Старым і Новым Барысавам гестапаўцы расстралялі святара Генрыха Глябовіча, які прыехаў сюды з Вільні па запрашэнні мясцовых вернікаў. Расстралялі за тое, што прыбыў сюды без дазволу нямецкай улады, што ў сваім казанні асмеліўся гаварыць пра непаслушэнства тым, хто не мае Бога ў сэрцы, гэта значыць маральна санкцыянаваў супраціўленне фашысцкаму таталітарнаму рэжыму, таталітарызму ўвогуле.

Хто ж такі Генрых Глябовіч? Ён — наш зямляк, нарадзіўся ў Гародні ў 1904 годзе. У 1927 годзе закончыў у Вільні Духоўную семінарыю, а затым вучыўся ў рымскім універсітэце Ангелікум, дзе праз два гады абараніў доктарскую дысертацыю па філасофіі ды стаў доктарам тэалогіі. Вярнуўшыся ў Вільню, быў прызначаны намеснікам прафесара на тэалагічным факультэце славутага універсітэта імя Стафана Баторыя, адначасова ўзначальваў парафію ў Троках.

Ксёндз Генрых Глябовіч цешыўся вялікай папулярнасцю сярод віленскай студэнцкай моладзі — палякаў, беларусаў, летувісаў. Прафесар Леан Брадоўскі слушна называе яго «душпастарам трох народаў» («Каляндар Палатынскі». Варшава, 1991). У сваіх казаннях, кнігах, выступленнях па радыё Генрых Глябовіч сцвярджаў, што «грамадскае зло спараджае ланцуговую рэакцыю», што, «змагаючыся з Богам і не любячы свой народ», чалавек дэгуманізуецца, перастае любіць і сваю айчыну. Гуманізм Генрыха Глябовіча быў актыўны, дзейсны. 3 траўня 1941 года ён выступіў у Вільні, у касцёле св. Ежага, з палымяным казаннем перад студэнцкай моладдзю, заклікаў яе да супраціўлення абставінам, якія «з вольнага і гордага чалавека робяць карла, блазна і раба». У Глябовіча не было «нянавісці ні да воднага народа, любіў ён Польшчу, меў павагу да Расіі, а таксама і да малых нацыяў — такіх, як летувісы ці беларусы.

А праз паўгода Генрых Глябовіч прыняў у лесе, над берагам Беразіны мучаніцкую смерць з рукі акупанта.

Сёння душпастарства і навукоўцы трох суседніх народаў пачынаюць старанні па ўвекавечанні памяці нашага земляка. У г. Влацлавэк (Польшча) у 1992 г. узнікла спецыяльная камісія па яго kанiзацыi, далучэнні да ліку святых. Там жа выдадзена паштоўка са зварнутай да яго малітвай. У Камітэце аматараў Літвы, які ўзначальвае праф. Л. Брадоўскі, нарадзілася задума восеньню гэтага года паставіць на месцы мучаніцкай смерці святара мемарыяльны крыж з надпісам на беларускай, летувіскай і польскай мовах. І гэтая ідэя вартая ўсялякай духоўнай і матэрыяльнай падтрымкі.

**Адам МАЛЬДЗІС,**
**прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

У артыкуле сп. Мальдзіса словы *літоўцы, літоўскай* заменены на *летувісы, летувіскі* — паводле рэдакцыйнай нормы.

**Рэдакцыя.**

***Што для мяне малітва?***

## Праменьчык надзеі

Я не асмельваюся назваць сябе веруючай. З ранняй маладосці я мела шмат рэлігійных сумненняў, адыходзіла і зноў вярталася, аж урэшце колькі гадоў таму рашуча адышла ад артадаксальнага веравання. Веры ў мяне няма, а ёсць толькі неацэнная іскрынка надзеі — надзеі, што акаляючая нас таямніца хавае не абсурд і бязглуздзіцу, але нейкае недасяжнае нам тлумачэнне нашай рэчаіснасці, што адпавядае людскому жаданню Дабра і Прыгажосці.

З той пары, як я адышла ад афіцыйнай рэлігіі, мая асабістая малітва стала выпадковай, часам вельмі рэдкай...

Рэгулярна гавару пацеры з дзецьмі, але тады малюся як бы ад іх імя і з інтэнцыяй думкай пра тое, каб яны не «кляпалі» пацеры, а каб думалі і адчувалі тое, што гавораць.

Між іншым, дзеля таго, каб прымусіць сябе да пэўнай сістэматычнасці абдумвання так званых «справаў апошніх», хаджу штонядзелю ў бажніцу. Тады і малюся... Можа не кожны назаве гэта малітвай, але, што ж, на іншую мяне нестае. Дарэчы, гэтая мая малітва вельмі дыферэнцаваная. Вось, перш за ўсё імкнуся ўсвядоміць: чаго я не ведаю і што я ведаю; якім мне падаецца свет і чалавечае жыццё на ім: як павінна жыць і як жыву.

Часта мяне мучыць неспакой: не давяраю сабе, знаю, што, магчыма, я сляпая; што, напэўна, я вельмі дурная. Верагодна, што такая «мая дарога» — не добрая, яна кружляе... Мне здаецца, што ў мяне на вачах бяльмо, і я не бачу добрага Бога і адзінства Евангелля.

Я выхоўвалася і цяпер жыву ў асяроддзі людзей веруючых, чытала і чытаю шмат рэлігійнай літаратуры. А таму, відаць, часта думаю пра сябе, як пра чалавека, які пазбаўлены Божай ласкі, і шукаю прычыны таго... Стараюся, аднак жа, гэтым неспакоем авалодаць, скіраваць сябе на тое, што мушу рабіць. А ў мяне шмат добрай волі, і я стараюся — усімі сваімі сіламі кіраваць ёю.

Я не ўпэўнена ў некаторых сваіх дзеяннях, а перш за ўсё — у сіле ўласнага інтэлекту, аднак жа ёсць рэчы, рэальнасць, якіх падаецца мне гэтак жа, як іншым — відавочнасць існавання Бога. Гэта інтуітыўная рэчаіснасць, а не разумовая. І я, нібы «Чужаніца» французскага пісьменніка Камю, хачу моцна трымацца таго, у чым я ўпэўнена. Вось толькі, што я кожны раз упэўнена ў нечым адметным і інакш стаўлюся да таго, што знаходзіцца па-за абшарам маёй упэўненасці.

Упэўнена, што трэба быць добрай...

Значную частку маёй малітвы займаюць разважанні: што гэта значыць у маім канкрэтным жыцці і як я з гэтым абавязкам спраўляюся.

За гэтым абшарам рэчаіснасці — змрок і праменьчык надзеі. У той змрок кірую сваё просьбы, падзякі і прызнанні, пачынаючы іх ад выказанай або нявыказанай згадкі: «калі ты ёсць»... Не адзін раз горкім дадаткам гэтага «калі ты ёсць» удзельнічаю ў імшы.

Асабліва часта прашу дапамогі дзеля людзей, якія пакутуюць, якія адзінокія, — блізкіх і незнаёмых. І ўрэшце мая малітва дасягае самай высокай ступені інтэнсіўнасці і палымянасці — адначасова і абсурду: малюся за сэнс, сэнс усяго свету, прыроды, і за сэнс кожнага людскога жыцця, за тое, каб тое, чаго не разумеем, было добрае і мудрае, за тое, нарэшце, каб ён быў. Мая малітва дае мне, як і вернікам, супакой і сілу. Звычайна, напрыканцы малітвы, думаю: калі ён ёсць і калі ён добры, то не можа лічыць дрэнным такое мае стаўленне, не можа патрабаваць ад мяне дзейнічаць насуперак свайму ўнутранаму перакананню, — але ў той жа час можа патрабаваць большай вернасці таму, у чым я ўнутрана перакананая, а таго ўсяго замала, замала...

**Жанчына, 35 гадоў, адукацыя вышэйшая, жыве ў вялікім горадзе. (Передрук з кніжкі «Безыменныя гавораць пра малітву»).**

***Чыталі?***

## Храм у зоне

У газеце «Царкоўнае слова» (№№ 4—6, 1995 г.) надрукаваны артыкул акадэміка А. Вейніка «Духоўны Чарнобыль». Нягледзячы на некаторую артадаксальнасць і ваяўнічасць артыкула, у ім утрымліваюцца цікавыя факты, пазнаёміцца з якімі прапануем чытачам «Нашага слова». Акадэмік супастаўляе праявы экалагічнай катастрофы і духоўнай, якія спасціглі нашу Беларусь, і прыходзіць да высновы, што факты гэтыя ўзаемазвязаныя. Менавіта духоўны заняпад, адыход ад шляхоў, вызначаных самім Богам, выклікаюць жудасныя пакаранні — прыродныя катаклізмы, хваробы, войны... А між тым выратаванне заўсёды побач з намі і нават у нас самім.

«Ад тэлебачання ФРГ прыязджалі да нас у заражаную Чарнобылем зону апаратары і са здзіўленнем пераканаліся, што ўнутры праваслаўных цэркваў і ад іх абразоў няма гамавыпраменьванняў: здымалі і ў мяне дома, але ім цяжка было зразумець, што гэты эфект мае не фізічную, а духоўную прыроду (абарону). Заўважана таксама, што ў хатах і кватэрах людзей, якія жывуць праведна, выпраменьванне шмат слабей, чым на вуліцы, і яны самі не хварэюць. У Гомелі адна жанчына купіла на рынку малако, зайшла на кантрольны пункт, і ёй сказалі, што піць нельга, моцна выпраменьвае. Дома плачуць дзеці, просяць малака, грошай купіць новае няма. Яна са скрухай і слязьмі памалілася, пакрапіла малако святой вадой і зноў аднесла на праверку; там не спыталі, дзе яна ўзяла такое чыстае малако».

Прыводзіць аўтар артыкула і яшчэ цікавы факт праяў надвышэйшай волі, адлюстраваны, дарэчы, у «Народнай газеце» (26. 7. 91). «... насельніцтва Шчучынскага раёна было сведкам уражлівага відовішча: паўгадзіны вогненны слуп, падхопліваючы розныя прадметы і змяняючы колер, са свістам і грукатам насіўся над чыстым полем каля вёсак Борці і Ліпічына. Мясцовыя жыхары выйшлі з абразамі і малітвамі. Смерч знік, а замест яго выпаў снег. Гэта было ў сярэдзіне лета...».

Розна можна трактаваць згаданыя факты, можна верыць ці не верыць ім. Але ці разумна адвяргаць тое, што не паддаецца нашаму тлумачэнню і не ўпісваецца ў межы нашага светапогляду?

**Падрыхтавала Л. Ш.**

*Алег НЕВЯРОЎСКІ*

## Каталіцкая царква на Беларусі і гісторыя нашага народа

*(Заканчэнне).*

1920 год. У выніку Рыжскага пагаднення бальшавіцкай Расіі і Польшчы Беларусь была падзелена на дзве часткі: на падсавецкай Беларусі пачынаецца крывавы тэрор над беларускім народам наогул і, у прыватнасці, над каталікамі.

Каталіцкія святары, актыўныя вернікі разглядаліся камуністычнымі ўладамі БССР як польскія шпіёны. Пачалося масавае знішчэнне святыняў, вываз святароў і касцельных актывістаў у Сібір, а пазней і іх фізічнае знішчэнне.

У Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй таксама шалеў санацыйны тэрор, хаця на пачатку дваццатых гадоў, калі віленскім архібіскупам быў Юргіс Матуляйціс, назіралася беларускае каталіцка-культурнае адраджэнне. З яго дазволу ў 1923 г. у мястэчку Друя быў заложаны кляштар марыянаў, для працы сярод беларусаў-каталікоў і праваслаўных. Пераважная большасць ксяндзоў у кляштары былі беларусы. Начале кляштара быў айцец Андрэй Цікота. Таксама там працавалі ксяндзы Абрантовіч, Германовіч, Падзява, Дашута. Пры кляштары існавала гімназія, дзе вучыліся беларускія дзеці. Айцом-марыянам архібіскупам Матуляйцісам было заснавана Згрмадэжнне сясцёр-служэбніц Езуса ў эўхарыстыі, пераважную большасць якіх складалі беларускі. У 1923 годзе першыя сёстры выехалі ў Друю. Такім чынам у Друі пачаў ствараецца значны каталіцкі асяродак.

Шмат іншых ксяндзоў-беларусаў працавала ў розных парафіях краю. Адносіны да беларусаў польскіх касцельных уладаў рэзка змяніліся, калі віленскім архібіскупам стаў Рамуальд Ялбжыкоўскі, а віленскім ваяводам — Людвік Бацянскі. Ксяндзы-беларусы пераводзіліся ў этнічна-польскія парафіі, а В.Гадлеўскі наогул быў арыштаваны і кінуты ў вязніцу.

БХД некалькі разоў мяняла сваю назву, а наклад «Беларускай крыніцы» і «Хрысціянскай думкі» некалькі разоў арыштоўвався. Апагеем гэтай антыбеларускай шавіністычнай дзейнасці было выгнанне ў 1938 годзе айцоў-марыянаў з Друі, закрыццё іх віленскага Дома студый.

У верасні 1939 г. пад націскам фашыстаў і бальшавікоў польская дзяржава скончыла сваё існаванне. Заходняя Беларусь апынулася пад Саветамі. Пачаўся вываз у лагеры святароў і вернікаў. 22 чэрвеня 1941 г. распачалася германа-савецкая вайна. Немцы з вялікай хуткасцю прасоўваліся на ўсход. У той жа час на Беларусь вярнулася значная частка беларускіх ксяндзоў, якія ў 1939 годзе ўцяклі ад бальшавікоў у Польшчу і Нямеччыну. Выйшлі з падполля ксяндзы, якія заставаліся на тэрыторыі Беларусі. Большасць іх групавалася каля «Беларускай незалежнай партыі», старшынём якой быў ксёндз В.Гадлеўскі. Мэтай партыі было — дасягненне незалежнасці Беларусі. Спадзяванне было і на тое, што Германія пераможа СССР у вайне, але пасля заходнія краіны пераможуць Германію і Беларусь дасягне незалежнасці.

Вось чаму ў 1941 г. у Менск прыехалі ксяндзы В.Гадлеўскі, С.Глякоўскі, Д.Малец і распачалі душпастарскую працу ў Менскім кафедральным касцёле і касцёле св. Сымона і Алены. Адначасна В.Гадлеўскі візітаваў каталіцкія парафіі, якія засталіся падчас ваеннага ліхалецця без пастараў, вёў актыўную падпольную дзейнасць, быў інспектарам школ у гарадской управе. Але ў 1942 г. арганізацыя была раскрыта гестапаўцамі, а ксяндзы В.Гадлеўскі і С.Глякоўскі расстраляны. Наогул для гітлераўцаў, як і для бальшавікоў, каталікі ўяўлялі вялікую небяспеку, бо касцёл заўжды супрацьпастаўляў антычалавечым тэорыям хрысціянскую любоў. У 1942 г. фашыстамі быў расстраляны грэка-каталіцкі (уніяцкі) экзарх Беларусі — а. Антоні Неманцэвіч. У лютым 1943 г. немцы разам з латышскімі калабарантамі распачалі карную акцыю супраць мірных беларускіх жыхароў на поўначы Віцебшчыны. У вёсцы Росіца Дрыскага павета былі спалены разам з каталікамі і праваслаўнымі ксяндзы Антоні Ляшэвіч і Юры Кашыра з Зграмаджэння марыянаў, якія добраахвотна ахвяравалі сваім жыццём дзеля людзей, асуджаных гітлераўцамі на смерць. Яны ёсць сапраўдныя пакутнікі за Хрыста і веру. З наступам у 1944 г. бальшавікоў частка беларускіх ксяндзоў апынулася ў эміграцыі ў краінах Заходняй Еўропы, дзе яны стварылі моцныя на той час беларускія каталіцкія асяродкі ў Рыме, Лондане, Нямеччыне. Было наладжана парафіяльнае жыццё. На стыпендыю Ватыкана шмат беларускіх юнакоў атрымалі вышэйшую адукацыю у каталіцкім універсітэце ў г. Лювен (Бельгія). Душпастарскую працу сярод беларускіх эмігрантаў-каталікоў праводзілі біскупы Б.Слосканс, Ч.Сіповіч, ксяндзы П.Татарыновіч, Я.Германовіч, В.Салавей, Л.Гарошка і іншыя.

А ў Савецкай Беларусі ў той час шалеў антыхрысціянскі, антыбеларускі тэрор.

Святароў і вернікаў зноў масава вывозілі ў лагеры на ўсход і поўнач СССР. У 1948 г. кітайскімі камуністамі бальшавікам былі выдадзены ксяндзы-беларусы Я.Германовіч, А.Цікота, Т.Падзява, якія працавалі на місіі ў Харбіне. Айцец Андрэй Цікота памёр у бальшавіцкім лагеры ў 1952 г. Астатнія доўгіх 6 гадоў правялі ў ГУЛАГу і былі вызвалены на пачатку хрушчоўскай «адлігі».

Пасля вызвалення ім было забаронена заставацца і працаваць на тэрыторыі Беларусі. Праз Польшчу яны выехалі ў Англію. Аб сваім жыцці ў камуністычных лагерах а. Язэп Германовіч напісаў кнігу «Кітай, Сібір, Масква», якая выйшла ў свет на эміграцыі. Трэба адзначыць ахвярную працу на падсавецкай Беларусі ксяндза Уладзіслава Чарняўскага, шматгадовага пробашча Вішнеўскага касцёла. Яго пяру належаць пераклады на беларускую мову шмат літургічных кніг, якімі сёння карыстаецца маладое пакаленне беларусаў-каталікоў. Ахвярна працавалі на Беларусі многія ксяндзы і законныя сёстры, несучы добрую вестку людзям. Ксяндзы служылі святую імшу, спавядалі, хрысцілі, шлюбавалі, навучалі людзей, часам гэта рабілася падпольна. Сёстры працавалі на парафіях, вучылі дзяцей рэлігіі ў падпольных школках, рызыкуючы пры гэтым атрымаць досыць вялікі тэрмін турэмнага зняволення.

Рэзкія змены ў жыцці каталікоў на Беларусі адбыліся пасля 1988 г. Тады ўпершыню, на дзяржаўным узроўні, святкавалася 1000-годдзе Хрысціянства на Русі. Спынілася нарэшце праследаванне людзей за веру.

У 1990 г. Апостальская Сталіца прызначыла на Беларусі Адміністратара. Ім стаў ксёндз-біскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Распачалося адраджэнне беларускага каталіцызму, а дакладней, працяг слаўнай працы сваіх папярэднікаў. У справу аднаўлення беларускіх каталіцкіх традыцый уключыліся маладыя беларускія ксяндзы і вернікі, маладая каталіцкая інтэлігенцыя. Тыя самыя выхаванцы падпольных нядзельных школак 60-х, 80-х гадоў і навапавернутыя людзі. Следам за моладдзю пачало згадваць сваю маладосць і беларускую мову ў касцёле і старэйшае пакаленне.

Усё гэта прывяло да стварэння ў 1991 г. «Беларускай каталіцкай грамады» і арганізацыі ў Менску беларускамоўнай парафіі ў касцёле св. Роха на Залатой Горцы. Працэс вяртання роднай мовы ў святыні і рэлігійнае жыццё хоць і марудна, але ўсё ж ідзе. Шмат у якіх парафіях маладыя хлопцы пайшлі ў духоўную семінарыю і рыхтуюцца да святарства. Расце колькасць прыхільнікаў беларускай мовы ў касцёле сярод клеру, законных сясцёр. Ёсць надзея на будучыню. Трэба адзначыць, што адносіны посткамуністычных улад Беларусі да каталікоў можна ахарактарызаваць наступным чынам: «не замінаюць, але і не дапамагаюць». Але ў шэрагу выпадкаў назіраюцца парушэнні правоў каталікоў.

Каталікі патрабуюць неадкладнага вяртання ім усіх адабраных калісьці касцёлаў і кляштароў, іншай маёмасці. Гэта ўсё было пабудавана на іх сродкі, і таму дзяржава павінна аднавіць справядлівасць.

Забаронена выкладанне навукі рэлігіі ў дзяржаўных школах, хаця ў суседніх сярэднееўрапейскіх краінах новымі ўладамі катэхізацыя дзяцей у школах дазволена.

Нам у спадчыну ад камуністычных часоў дастаўся вялікі букет сацыяльных, нацыянальных, культурных хвароб. Вядома, пераадолець іх будзе вельмі не проста, але вернікі мусяць вытрымаць і перамагчы ўсё — «Дзеля Хрыста, Касцёла і Айчыны».

# Кола сям'і

# Муж і жонка ў Новым Запавеце



У Беларускім праваслаўным календары 1994 года была змешчана цікавая гутарка — дыялог укладальніка выдання айца Паўла Баянкова і рэдактара Леаніда Качанкі. Думаецца, вытрымкі з яе будуць цікавыя чытачам рубрыкі «Кола сям'і».

## Узаемаадносіны мужчыны і жанчыны

У Новым Запавеце дакладна вызначана розніца ўзаемаадносін мужчыны і жанчыны, мужа і жонкі. Апостал Павел зазначае: *«Добра чалавеку не дакранацца жанчыны»* (Першае «Пасланне да Карынфянаў» (далей: 1 Кар.); 7:1). Больш таго, у евангеліста Мацея чытаем: *«Кожны, хто глядзіць на жанчыну пажадліва, ужо пралюбадзейнічае з ёю ў сэрцы сваім»* (Мацея. 5:28). Мужчына і жанчына — яшчэ не муж і жонка. Пазашлюбныя адносіны агідныя і беззаконныя, сувязі хаатычныя і зменлівыя. Адбываецца паступова і незваротная растрата чалавека. І не толькі растрата цела, але і растрата душы. Зусім інакш бывае ў мужа з жонкай, дзе (у ідэале, безумоўна) мае месца поўнае адзінства душы і цела, своеасаблівы закон «спалучаных пасудзін», дзе нішто — ні душа, ні цела — не страчваюцца, але прымнажаюцца(прынамсі, у дзецях).

## Шлюбныя адносіны мужа і жонкі

Апостал Павел, які сказаў, што *«добра чалавеку не дакранацца жанчыны»*, далей у Евангеллі асуджае тых, хто забараняе брацць шлюб, *«бо ўсякае стварэнне добрае»* (Першае пасланне да Цімафея, 4:4). Аднак чаму сказана *«добра не дакранацца»*? Справа ў тым, што ўся светабудова і з ёй быццё наша строга іерархічныя і перш за ўсё неабходна служыць Богу, а затым толькі мужу ці жонцы. *«Нежанаты клапоціцца аб Гасподнім, як дагадзіць Госпаду; а жанаты клапоціцца аб людскім, як дагадзіць жонцы. Ёсць рознасць паміж замужняю і дзяўчынай; незамужняя клапоціцца аб Гасподнім, як дагадзіць Госпаду, каб быць святою і целам, і духам; а замужняя клапоціцца аб людскім, як дагадзіць мужу»* (1 Кар. 7:32:34).

Вось тут і паўстае гордасць чалавечая! Яна не заўжды здатна скарыцца, прызнаць неабходнасць падначалення жаночай асновы аснове мужчынскай, вытрымаць маральную чысціню ўзаемаадносін. Але няхай гэта гордасць суцішыцца, яшчэ раз перачытаўшы словы апостала Паўла, што ўпаміналіся намі, і наступнае: *«Каб пазбегнуць распусты, кожны няхай мае сваю жонку, і кожная жонка няхай мае свайго мужа. Муж, аказвай жонцы неабходную прыязнасць; таксама і жонка мужу. Жонка не ўладарыць сваім целам, а муж; роўна і муж не ўладарыць сваім целам, а жонка. Не пазбягайце адно аднаго, хіба толькі па згодзе, часова, для посту і малітвы, а пасля зноў будзьце разам, каб не спакушаў вас сатана неўстрыманнем вашым. Аднак гэта сказана мною як дазвол, а не як загад. Бясшлюбным жа і ўдовам гавару: добра ім заставацца, як я, калі ж не могуць устрымацца, няхай бяруць шлюб; бо лепш узяць шлюб, чым распальвацца. Тым, хто ўзяў шлюб, не я загадваю, а Гасподзь: жонцы не разводзіцца з мужам, — калі ж развядзецца, то павінна заставацца бясшлюбнай, ці прымірыцца з мужам сваім, — і мужу не пакідаць жонкі сваёй»* (1 Кар. 7:2—6,8—11).

## Шлюб — выратаванне для веруючага

Ці толькі сродкам ад распусты з'яўляецца шлюб? Па словах апостала, шлюб можа стаць асвячэннем і выратаваннем для няверуючага. *«...Калі які брат мае жонку няверуючую, і яна згодна жыць з ім, то ён не павінен пакідаць яе, і жонка, якая мае мужа няверуючага, і ён згодны жыць з ёю, не павінна пакідаць яго, бо няверуючы муж асвячаецца жонкай веруючаю, і жонка няверуючая асвячаецца мужам веруючым; інакш дзеці вашы былі б нячыстыя, а цяпер святыя. Калі няверуючы хоча развесціся, няхай разводзіцца... Няўжо ведама табе, жонка, ці не выратуеш мужа? Альбо табе, муж, няўжо ведама, ці не выратуеш жонку?» (1Кар. 7:12:16).*

Ці скардзіцца чалавеку на свой лёс, калі сталася ў жыцці быць без шлюбу? Клопат Божы пра чалавека заўжды выратавальны. Таму і звяртаецца да нас апостал: *«Я вам кажу, брація: час ужо нядоўгі, тыя, што маюць жонак, павінны быць як тыя, хто не маюць!»* (1 Кар. 7:29).

## Аб скасаванні шлюбу

Развод — разрыў той адзінай плоці, якую спалучыў Бог, вось чаму ён так балюча непераносны. І наколькі шлюб быў сапраўдным, — настолькі балючым стане гвалтоўны яго разрыў па жывому... Вось што гаворыць Ісус Хрыстос: *«...Што Бог спалучаў, таго чалавек хай не разлучае... Я кажу вам: хто развядзецца з жонкаю сваёю не за пралюбадзейства і ажэніцца з другою, той пралюбадзейнічае; і хто ажэніцца з разведзенай, пралюбадзейнічае»* (Мацея. 19:6,9).

Бясспрэчна, развод ёсць злачынства супраць закона, супраць устаноўленай Богам самой прыроды рэчаў. Прычына ж ува ўсіх разводах заўжды адна — «неміласэрнасць». І самая большая неміласэрнасць — пралюбадзейства, сямейная здрада. Толькі па гэтай прычыне скасаванне шлюбу можа быць даравана, у супрацьлеглым выпадку вызваліць чалавека ад шлюбу можа толькі смерць (Пасланне да Рымлянаў 7:2—3).

## Аб падначаленні жонкі і мужа

Разважаючы аб сям'і, заўжды трэба мець на ўвазе Богам усталяваную няроўнасць паміж мужам і жонкаю. Муж *«есць вобраз і слава Божыя; а жонка ёсць слава мужа. Бо не муж ад жонкі, але жонка ад мужа; і не муж створаны для жонкі, але жонка для мужа... Аднак ні муж без жонкі, ні жонка без мужа... усё ж — ад Бога»* (1 Кар. 11:7—9, 11—12).

І ўсё ж, у кагосьці можа скласціся ўражанне аб шлюбе, як аб «уціску», «ярме», цяжкім абавязку, а для жонкі яшчэ і аб безумоўным і сляпым паслухмянстве, гвалтоўным падначаленні мужу. Так можа думаць чалавек з сімптомам той «неміласэрнасці», аб якой упаміналася вышэй. Апостал Павел зноў жа даводзіць: *«Так кожны з вас ды любіць сваю жонку, як самога сябе; а жонка ды баіцца свайго мужа»* («Пасланне да Ефясянаў», 5:33).

*«Так і вы, мужы, абыходзьцеся беражліва з жонкамі, як з далікатнай пасудзінай, аказваючы ім павагу, як сунаследніцам шчаслівага жыцця»* («Першае пасланне Пятра», 3:1— 4,7).

Гэты зварот апостала да жонак, як да «сунаследніц», паказвае іх сапраўдную роўнасць з мужамі, але не ў праславутай «эмансіпацыі», а ў роўнасці перад Госпадам.

Сакрэт шчаслівых шлюбных адносін у здатнасці да кампрамісных вырашэнняў. Гэтыя кампрамісы адбываюцца штодзённа, на працягу ўсяго жыцця.

Моц жа сям'і грунтуецца на бездакорным выкананні кожным членам сям'і сваіх абавязкаў — у пераважнасці несупыннай і цяжкай працы! І менавіта яна вызначае сэнс чалавечага жыцця і забяспечвае працяг чалавечага роду.

**P. S.** Дзеля ілюстрацыі мы абралі гравюру Ф. Скарыны на тытульным лісце ягонага выдання кнігі «Песня песням».

*Здароўе*

*Таццяна ФАМІНА,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

# Стомленасць

Пасля цяжкай і працяглай працы, доўгага стаяння ці хады вы раптам пачынаеце адчуваць, што вам хочацца аднаго — спыніцца, прысесці, паставіць цяжкую торбу, а знясіленыя рукі пакласці на калені. Так праяўляецца стомленасць — абарончая біялагічная рэакцыя арганізма, які засцерагаецца ад празмернага згубнага змяншэння ягоных рэзерваў.

Вы колькі хвілін адпачылі і ўжо можаце ісці далей, можаце зноў несці сваю ношку. Хоць і кажуць, што свая ношка не цяжкая, але — да пары збан ваду носіць. Так і ў людзей. Вынікам празмернага аднаразовага стамлення ці незапашвання стомленасці ад разумовай, ад фізічнай працы на працягу некалькіх тыдняў ці месяцаў можа з'явіцца ператамленне, якое накліча хваробу — неўрастэнічны сіндром.

Стомленасць не залежыць ад узросту, і можа праяўляцца нават у дзяцей. Прычынаў шмат: гэта і хранічнае недасыпанне, аднастайнасць забаваў і гульняў, недахоп руху. У падлеткаў — прычыны падобныя. Стомленасць узнікае ад працяглага прагляду тэлеперадач, чытання, гульняў седзячы. Як пазнаць, што дзіця стамілася? Першая прыкмета — дзеці становяцца капрызнымі, злуюцца, не слухаюцца, адмаўляюцца ад ежы, пры большай ступені стомленасці дрэнна спяць. Калі ж ваша дачка ці сын спакойнага характару, то раздражняльнасць, капрызы не так кідаюцца ў вочы, затое пры выкананні, прыкладам, хатняга задання відавочная страта ўвагі, а праз гэта і памылкі. Адказам жа на вашыя патрабаванні — слёзы.

Не сварыцеся ў такім выпадку на дзяцей (не кажу ўжо пра пагрозу ці біццё). Гэта не дапаможа. Малятак, калі яны становяцца капрызнымі, трэба забавіць нейкай цікавай забаўкай ці гульнёй, а калі ўдасца, напаіць і накарміць. Пасля ж пастарайцеся дзіцятка пакласці спаць, палюляйце яго, збайце яму якую-небудзь казку з частымі паўторамі.

Школьнікаў жа не прымушайце садзіцца за ўрокі адразу пасля школы. Яны пасля абеду мусяць пабегаць, пагуляць на вуліцы не менш гадзіны.

## Самадапамога

Не чакайце, пакуль вас адолее абыякавасць ці дрымота, зрабіце перапынак на некалькі хвілінак. Калі вы адчулі моцную стому падчас разумовай працы, выйдзіце ў калідор ці іншае месца, дзе свежае паветра, дзе можна зрабіць некалькі гімнастычных практыкаванняў, пацягнуцца. Карысна некалькі разоў выгнуць і выпрастаць спіну (так, як гэта робяць кошкі і сабакі), плаўна пакруціць шыяй і некалькі разоў, больш энергічна, павярнуць тулава ды зрабіць нахілы ў розныя бакі. Калі ж няма ўмоў да такой гімнастыкі, дастаткова памасажыраваць актыўныя кропкі над пераноссем, над брывамі, на скронях, патыліцы і шыі. Калі вы не ведаеце, дзе знаходзяцца гэтыя кропкі, дастаткова некалькі разоў мякка пагладзіць згаданыя часткі галавы. Можна пахадзіць па калідоры ці па лесвіцы, стараючыся спакойна і глыбока дыхаць. Памагаюць зняць стому жарт, прыемная размова ці, хаця б, проста думанне пра нешта прыемнае. Вядома, не зашкодзіць шклянка соку ці гарбаты. Але, вядома, на ўсё гэта трэба патраціць хвіліны, інакш жа цяжка будзе ўвайсці ў рабочы рытм.

Стомленасць ад працы ля станка ці канвеера, ад якога нельга адысціся, дапамагае зняць гарачы абед з гароднінай і садавінай ці сокам. Падчас абедзеннага перапынку не зашкодзіць масаж шыі, патыліцы, рук.

Ні ў якім выпадку не курыце — гэта вельмі шкодна, бо ўзмацняецца кіслароднае галаданне мазгоў і звужваюцца крываносныя сасуды рук, ног, сэрца, ад чаго зніжаецца канцэнтрацыя ўвагі.

Дома, пасля работы, калі вам давялося многа хадзіць ці стаяць, варта памыцца пад душам, ці, хаця б, памыць ногі гарачай вадой і паляжаць на канапе хвілін дзесяць-пятнаццаць, паклаўшы ногі вышэй, прыкладам, на падушку. Пажадана зрабіць лёгкі масаж ног знізу уверх.

# Ажыны

Канец лета. Паспелі ажыны — здалёк відаць іх чорныя, нібы глянцавыя ягады, а пагледзіш зблізку — дык яны ж цёмна-чырвонага колеру. Назбірайце ажынаў! У гэтых ягадах шмат арганічных кіслотаў, вітамінаў А, С, В, Е, ды іншых біялагічна актыўных рэчываў. Ёсць у іх шмат мікраэлементаў. А таму ажынавы сок мае цудадзейную моц, яго можна піць ад прастуды, памагае ён і дзецям, хворым на шкарлятыну.

Сушаныя ажыны амаль не трацяць сваіх лекавых уласцівасцяў. Лыжачку сухіх ягадаў, пакрышаных і змяшаных з мёдам, раяць даваць тройчы на дзень дзецям, якія мучацца крывавым паносам.

# Памідоры

У гэтых «залатых яблыках» (ад франц. pomme d'or) ёсць амаль усе вітаміны: А, Д, Е, К, С і комплекс вітамінаў групы В, а таксама лімонная і яблычная кіслоты, апроч таго — кальц, каль, натр, жалеза, медзь, фосфар, кобальт, нікель, а таксама бром — таму памідоры дзейнічаюць заспакаяльна. Касметыкі сцвярджаюць, што памідоры амалоджваюць, а таму раяць іх есці, а плястры мякаці накладаць на твар ды іншыя часткі цела, скура якіх перасушана сонечнымі промнямі.

Але асобам, схільным да атэрасклерозу, артрозу і рэўматызму, не раім аб'ядацца памідорамі. Амерыканскі агароднік, прафесар універсітэта ў Нью-Джэрсі, аўтар шматлікіх навуковых прац, сцвярджае, што памідоры ( як і наогул усе паслёнавыя, у тым ліку, бульба, перац, баклажаны) выклікаюць у некаторых людзей артрэтызм. Гэты вучоны пераканаўся на сабе. Калі ён еў шмат гародніны (згаданага сямейства паслёнавых), у яго абвастраўся боль у плячы, а калі трымаўся адпаведнай дыеты — боль знікаў...

З. С.

Культура мовы

# На памылках вучацца

Паважаная рэдакцыя «Нашага слова»! Не згодна я з артыкулам Л. Шніп «На памылках вучацца» (№ 19, 1995 г.). Бясспрэчна, у сказе патрэбна коска перад злучнікам «што» (лічу, што гэта злучнік, а не злучальнае слова, бо ён не з'яўляецца членам сказа). А з тым, што дадаая частка сказа з'яўляецца дапаўняльным сказам, згадзіцца нельга. Лічу, што гэта дзейнікавы сказ, бо ён выконвае ролю дзейніка пры галоўным сказе без дзейніка. Так гаворыцца ў школьным падручніку. Там жа і прыводзяцца такія прыклады: *Чуваць, як пад зямлёй, падрыўнікі ўзрываюць ноччу вугальныя глыбы. Русаковічу здавалася, што ён нават бачыць доўгія прагныя языкі полымя. Добра, што дзедава хвароба доўга не зацягнулася.*

Гэта прыклады, аналагічныя вашаму. Існуе добры спосаб адрознення склону вінавальнага ад назоўнага тых слоў, якія адказваюць на пытанне «што?», — падставіць назоўнік жаночага роду з канчаткам -а, -я. Напрыклад: **Расце што? — дрэва (трава). Бачу што? — дрэва (траву).**

Гэтым спосабам кіравалася ўвесь час у сваёй практыцы. А цяпер аб спрэчным сказе. Часам здаецца (што?) высячэнне іскраў (?!) — слова «высячэнне» стаіць у назоўным склоне, а не ў вінавальным і таму з'яўляецца дзейнікам. Значыць, і дадаены сказ дзейнікавы. Падстаўляем замест **высячэнне** назоўнік жаночага роду. **Здаецца песня, казка, іскра і г. д.** Відавочна, гэтыя назоўнікі ў назоўным склоне. У вінавальным былі б — **песню, казку, іскру**. І што ж атрымліваецца: **Здаецца песню, казку, іскру** — бязглуздзіца.

Не ведаю Вас, паважаная Л. Шніп, не ведаю, чым Вы кіраваліся ў даным выпадку. Не ведаю, што сказана наконт гэтага ў вузаўскім падручніку. Не думаю, каб былі такія разыходжанні. Магчыма, я памыляюся. Дакажыце мне.

**Н. А. ПАДАБЕД.**
**настаўніца-пенсіянерка з Ліды.**

Шаноўная Н. А. Падабед! Я рада, што Вы нераўнадушна ставіцеся да праблем беларускай мовы і вырашылі ўзяць удзел у рубрыцы «Культура мовы», тым больш, што Вы – вопытная настаўніца. Хто лепей за Вас можа вызначыць памылкі ў мове і іх прычыны. Таму я магу толькі прывесці мае разважанні над памылкай у згаданай цытаце. Прынамсі, сам факт памылкі бясспрэчны – у сказе адсутнічае коска. Што ж датычыць тыпу даданага сказа, сапраўды самым складаным пытаннем для мяне было вызначыць, з'яўляецца ён даданым дзейнікавым ці даданым дапаўняльным. Працытую яшчэ раз: **Часам здаецца што паміж Элен і міс Ані высякаюцца іскры высакавольтных разрадаў.** Для вызначэння тыпу сказа я скарыстала з парады, прыведзенай у дапаможніку для абітурыентаў «Беларуская мова» (Мн., «Вышэйшая школа», 1992): «Каб адрозніць дадаены дзейнікавы сказ ад падобнага да яго дапаўняльнага, трэба замест даданага сказа падставіць слова, сінтаксічная роля якога і пакажа тып даданага сказа, напрыклад: «Чутно было (што?), як баяніст прабуе лады» – дадаены дзейнікавы (параўн.: Чутна была проба ладоў)». Па прапанаваным узоры я падставіла ў сказ слова **высячэнне – Часам здаецца (што?) – высячэнне іскраў.** Я палічыла, што такое спалучэнне не мае сэнсу і не можа ўжывацца ў такім выглядзе. Таму і вызначала тып сказа па іншым варыянце – **Часам здаецца, што высякаюцца іскры.** Але, як Вы правільна напісалі, асноўным крытэрыем у дадзеным выпадку павінна з'яўляцца адрозненне назоўнага ад вінавальнага склона, у якім стаіць слова – функцыянальны адпаведнік даданага сказа. Але, на жаль, я не ведала правіла, якое Вы прыводзіце ў Вашым пісьме, таму кіравалася перш за ўсё сэнсавай спалучальнасцю падстаўленага слова з галоўнай часткай сказа. Асноўным, чым я кіравалася, быў тып галоўнай часткі сказа: «Здаецца» – безасабовы дзеяслоў, а пры такіх дзеясловах у сказе ніколі не бывае дзейніка, яны выступаюць выказнікамі ў безасабовых сказах». З гэтага я зрабіла выснову, што калі пры такім выказніку не можа быць дзейніка, дык і дадаены сказ не можа быць дзейнікавым. Але, кіруючыся тым правілам, якое Вы даслалі, я, пэўна, прыйшла б да такой жа высновы, што і Вы. Да таго ж, вызначэнне «што» злучальным словам, а не злучнікам, было абумоўлена для мяне якраз тым, што я палічыла спалучэнне «здаецца (што?) высячэнне» памылковым, і таму ўжыванне «што» абавязковым і адыгрываючым менавіта ролю члена сказа. Шкада, што я не знайшла ў падручніках і дапаможніках, якімі карысталася, прыведзеныя Вамі правілы. Гэта значна спрасціла б маю працу. Таму дазвольце Вам падзякаваць і запрасіць да далейшага супрацоўніцтва. На жаль, у нашай прэсе дастаткова граматычных памылак у беларускай мове, і Вы змаглі б дапамагчы нам у іх выпраўленні і разглядзе, маючы ў гэтым багаты вопыт.

Л. ШНІП.

ACADEMIA «NS»

Гісторыя моваў на Беларусі

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

*«Сия книга монастыря Кутеинского списана за игумена Иова Молочки року 1669».*
**Прыпіска ў рукапісным зборніку XVII ст.**

Надзвычай яркай старонкай у гісторыі беларускай літаратурнай мовы старажытнага перыяду была рукапісная рэлігійная літаратура канца XVI—XVII стст. Спецыфіка культурнай сітуацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, як і ў Маскоўскай дзяржаве, была ў тым, што з усталяваннем друкарскага станка тут не адмовіліся ад старога, звыклага рукапіснага спосабу вытворчасці кніг. Рукапісная рэлігійная літаратура значна дапаўняла друкаваную ў сэнсе зместу і формы. Менавіта рукапісны спосаб вытворчасці гэтых тэкстаў і дазволіў упершыню ў небывалай дагэтуль ступені адлюстравацца асаблівасцям жывой беларускай мовы.

Рукапісы рэлігійнага зместу канца XVI—пачатку XVIII ст. сведчаць аб тым, што ў гэты час беларуская мова ўжо стала **звычайнай** у рэлігійным ужытку. Працягваліся пераклады Біблії: 12 кніг Старога Запавету змяшчаецца ў рукапісе пачатку XVII ст. Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, у другім рукапісе гэтай жа бібліятэкі змешчаны **пераклад Кнігі Макавеяў: кароткі выклад** асобных біблейскіх кніг змяшчае рукапіс XVII ст. Бібліятэкі Акадэміі навук Украіны. Шматлікія цытаты і ўрыўкі з Евангелля ў тагачасных рукапісах сведчаць, што працягваліся пераклады на беларускую мову і кніг Новага Запавету (першы пераклад Евангелля на беларускую мову быў зроблены ў канцы XVI ст. Васілём Цяпінскім). У сярэдзіне XVII ст. быў зроблены новы пераклад Псалтыра (рукапіс Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве).

Жыцце — апавяданне пра жыццё духоўнай або свецкай асобы, кананізаванай (г. зн. узведзенай у ранг святых) царквой. Жыціі ўзніклі ў Рымскай імперыі ў першыя вякі існавання хрысціянства як жыццяпісы першых пакутнікаў за новую рэлігію, створаныя з павучальнай мэтай. Некаторыя з іх увабралі сюжэты дахрысціянскіх міфаў, сярэдневяковых навел, нават анекдотаў і самі сталі крыніцай легенд і духоўных вершаў. Да ўсходніх славян перайшлі ў X—XI стст., г. зн. фактычна разам з першымі хрысціянскімі тэкстамі, з Візантыі і былі распаўсюджаны ў зборніках Чэцці-мінеі (адна з іх была перапісана царкоўнаславянскай моваю з беларускай афарбоўкай у XV ст. Бярозкам з Навагрудка, гл. аб гэтым у раздзеле «Царкоўнаславянская мова»), пролагі (захаваўся беларускі пераклад сярэдзіны XVII ст.). і пацерыкі, у аснове якіх былі займальныя эпізоды з жыцця манахаў. У XI—XIV стст. з'явіліся арыгінальныя ўсходнеславянскія жыціі — княжацкія (Барыса і Глеба, Вольгі і Уладзіміра, Аляксандра Неўскага, Дзмітрыя Данскога), царкоўныя («Жыціе Феадосія Пячэрскага»). У XIII—XV стст. узнікаюць арыгінальныя беларускія жыціі («Жыціе Ефрасінні Полацкай», «Жыціе Аўрамія Смаленскага», «Сказанне пра трох віленскіх пакутнікаў Іаана, Антонія і Яўстафія»). Іх аўтары не прытрымліваліся візантыйскай схемы, звярталіся да рэальных гістарычных фактаў, уключалі эмацыянальна-псіхалагічныя маналогі, бытавыя замалёўкі. З перакладных было надзвычай папулярным разгледжанае вышэй «Жыціе Аляксея, чалавека божага», жыціі, змешчаныя ў рукапісных зборніках сярэдзіны XVII ст., якія тут разглядаюцца.

Класічныя жыціі напісаны па адной схеме: спачатку герой паязычніцку вядзе амаральны лад жыцця або, будучы хрысціянінам і спакушаны д'яблам, збочвае на гэты шлях. Потым, усведамляючы ў святле ідэй Хрыста сваё падзенне, ціаной пакут выкупляе свае грахі. Так, Сімяон, жыціем якога адкрываецца зборнік № 752, збудаваў сабе для гэтай мэты слуп, узлезшы на які, і адракаецца ад свету, цярпліва зносячы спёку і холад. Паслушнік зрэдку падаваў яму ўбогую яду. З цягам часу цела Сімяона ад дажджоў і сонца загрубела, а адзенне сатлела. Бог, нарэшце заўважыўшы пакуты свайго верніка, і надзяліў яго здольнасцю тварыць цуды, вылечваць людзей. Так Сімяон стаў святым, атрымаўшы па свайму ладу жыцця на слупе прозвішча Столпніка. Другі манах, каб падвергнуць сябе пакутам, туга абвязаў сваё цела вяроўкай і доўга не здымаў яе, аж пакуль на целе не ўзніклі гнойныя язвы, у якіх завяліся чэрві. Іншыя манахі, што дзялілі з ім дах, пачалі скардзіцца, што не могуць цярпець смурод, які сыходзіў ад пакутніка.

Іншыя паслядоўнікі Хрыста па загаду цара-язычніка падвяргаліся бязлітасным катаванням, карцінамі якіх перапоўнены старонкі зборнікаў жыцій. Вось як катавалі святога Якава: «Коли почали лытки его до голен пороти учул с(вя)тый болезнь великую і взывал до г(оспо)да Б(о)га голосомъ великимъ, мовячы. Гос(по)ди Исусъ Хр(и)сте поможи мне рабу твоему яко обыйдоша мя болезни Смертныя, рекли до него Катове. Чы не мовилисмо мы тобе первей. Іжъ великие А тяжкие болести докучат тобе: А святый яков отповедает имъ глупые яко мает тело носечы болести и муки чути. Але мысль моя у г(о)с(по)да моего Ис(у)са Хр(и)ста: втом пристоит о што прошу не жалуйте тогды мучители роспороли лытку левую голени его Ажъ до стегна тогды лежал с(вя)тый яков яко Кипарисъ Вонный. Албо яко винная лоза обрезана А потомъ отворилъ уста свои. С(вя)тый и рече г(о)с(по)ди Ис(у)с(е) Христе Боже спасителю мой умилосердися. А выслухай м(о)л(и)тву мою, и прийми моление мое. И укрепи мя М(и)л(о)стию своею скончати подвигъ сей».

Па словах Яўхіма Карскага, гэтыя творы... «развіваючы міжнародныя і ўвогуле вандроўныя сюжэты, набліжаюцца да арыгінальных твораў». Гэтая пэўная ступень імправізацыі пры напісанні такіх твораў і дазволіла перакладчыкам і перапісчыкам шырока выкарыстоўваць сродкі жывой народнай мовы свайго часу.



**Старонка рукапіснага Псалтыра**
**(Беларускі пераклад ХУІІ стагоддзя)**
**На старонцы напісана наступнае:**
9. велможност твою. Не ѡтки—
дай же мене часу старости
и коли ўстане сила моя.
10. не ѡпушай мене. Бо не
прию тели мои мовили
противко мене а тые
которые чигали* На д(ү)шү
мою зошлисю сполъ
11. врадү: мовечи, ѡпү—
стил** его бгъ: гоньте
а поймайте его, бо не—
машъ хто бы его ѡтнюл
12. боже не ѡткидай же са ѡтме-
не, а поспешисю ѡ боже
мой На ратүнокъ мой
Нехай

*Чигати, польск. — пагражаць.
** Опустити, польск. — пакінуць.

## ACADEMIA «NS»

*Мікалай КРЫЎКО* — беларушчына.
*Алена ШЧУКА* — англійшчына.

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАСКО́ЧЫЦЬ І ПЕРАСКО́КНУЦЬ** размоўнае; *што, цераз што* і *праз што* (зрабіўшы скачок, апынуцца на другім баку чаго-н). *Капусты міску нам на стол, — Сабака б мо' не пераскочыў, І верне пара аж у столь і смачным пахам нюх ласкоча* (Крапіва). *Пераскокнуць канаву,* **ПЕРАМАХНУ́ЦЬ** *што, цераз што* і *праз што*; разм. (хутка, ураз пераскочыць). *Раптам высокі з маладым спрытам перамахнуў цераз парканчык, падабраўся да акна, але тут яго напаткала няўдача* (Навуменка). **ПЕРАМАХНУ́ЦЦА** *цераз што* і *праз што*; разм. *Хлапец ускочыў на паркан, перамахнуўся на той бок і пайшоў паволі змрочнаю вуліцай* (Чорны), **ПЕРАЛЯЦЕ́ЦЬ** *што, цераз што* або *праз што*; разм., узмацняльнае *Скурай на плячах і патыліцай адчуваю, што паляць па мне. Усхопліваюся, пералятаю плот, імчу далей* (Карпюк). *Пералятала [ласіха] лёгка Праз карчы, Праз яміны з вадой іржавай* (Арочка) // (пераважна *на што* або *з чаго на што*; скачком перамясціцца куды-н., з аднаго месца на другое). *Спрытна Ра пераскочыў на суседнюю галіну* (Маўр). *Па-абапал глухія балоты, дзе толькі... лесавая звярушка з купіны на купіну пераскочыць* (Лынькоў). *Верабей пераскочыў вышэй, зірнуў чорненькім круглым вочкам на акно і паляцеў* (Бураўкін). *Пераскокнуць з адной купіны на другую. Калі ўзяць доўгі кій ды з разбегу скокнуць, абапёршыся на яго, можна перамахнуць на другі бераг* (Беразняк). *Вавёрка пераляцела з аднаго дрэва на другое.* — Незак.: **Пераскакваць і пераскокваць, перамахваць, перамахвацца, пералятаць**.

**ПЕРАСПРАЧА́ЦЬ** (атрымаць перамогу ў спрэчцы). *У Яся была на дзіва добрая памяць, — столькі розных вестак і фактаў ён з такім натхненнем, што ніхто не мог пераспрачаць яго* (Мележ). **ПЕРАПЕ́РЦІ** разм. — *А цяпер глядзі — усё ж і коні, і кароў колькі, — супярэчыў Юзік, ведаючы загадзя, што Грамабоя ўсё роўна не перапрэш* (Крапіва). *Пархвіенка цяпер ужо нічога не гаварыў: усіх не перапрэш!* (Чорны). — Незак.: **Пераспрэ́чваць, перапіра́ць.**

**ПЕРАСТАРА́ЦЦА** (паказаць празмерную стараннасць, руплівасць у чым-н). *Камісія праверыла, зрабіла вывады, што ўраёне перастараліся з ліквідацыяй траваполкі* (Дуброўскі). *Аказваецца, нават робячы дабро, можна перастарацца, залішне «хапіць» ці, як кажуць, перабраць меру* (Усікаў). **ПЕРАДА́ЦЬ** разм., часта іранічна *[Саладуха:] — Што ты ад яго хочаш, выхадны дзень, няхай крыху адпачне. [Высоцкі:] — Не вельмі ён перадаў* (Гурскі). *[Вандзя да Стасюкевіча:] — Лезь во сюды (на скірду) і сам памажы. Ест жа сіла — выгуляўся кавалернічаючы, утравеў. Не перадаў надта, на машыне ездзячы...* (Далідовіч). **ПЕРАХАПІ́ЦЬ** разм., часта іран. *Не надта і ты перахапіў. Учора быў там, нідзе не знайшоў цябе, напэўна ў цяньку пад ігрушай спаў* (Сергіевіч).

**Перастарацца**. Асноўны англ. адпаведнік — **to overdo**. Акрамя таго, у сітуацыях, аналагічных паданым з бел. размоўнымі дзеясловамі *перахапіць, перадаць /=перарабіцца, перагаміцца/*, магчыма ўжыванне англ. размоўных выразаў *to overdo it, to kill oneself.*

**ПЕРАСТА́РКА** разм. (пра немаладую дзяўчыну, што не ўступіла ў шлюбныя адносіны, не выйшла замуж). *Ніна яшчэ не перастарка. Знойдзе сабе хлопца* (Кухараў). **ПЕРАСТА́РАК** разм. *Яна (Антаніна) была перастарак, даўно заседзелася ў дзеўках і хоць добры мела пасаг, ніхто не квапіўся на яе багацце* (С.Александровіч). *Цётка Аўдоля даводзілася майму бацьку стрыечнай сястрой. У Стычыны яна трапіла па няшчасцю. Перастаркам засталася ў дзявоцтве і пайшла за першага, хто трапіўся* (Чарнышэвіч). **СТАРА́Я ДЗЕ́ЎКА** разм. *Ядвіська замуж выходзіць, а яна, Анэля, у старых дзеўках астанецца* (Бядуля). *Валя была шчаслівая — нарэшце і ў яе муж, нарэшце і яна не адзінокая, не старая дзеўка* (Арабей). **ВЕКАВУ́ХА** разм. *Антанюк добра ведаў і разумеў жанчын-сялянак — матак дарослых дачок, іх старасвецкі клопат: каб, крый божа, не стала доня векавухай* (Шамякін). *Пятро часта лавіў сябе на думцы, што Зіна не любіць яго, у свае дваццаць восем яна выйшла замуж, каб часам не застацца векавухай* (Ваданосаў).

**Перастарка**. Англ. сінанімічны рад выглядае карацей: **old maid**, **spinster**. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў адрозненне ад беларускіх абодва англ. сінонімы не з'яўляюцца размоўнымі. Цікава звярнуць увагу на структурнае падабенства паміж бел. *старая дзеўка* і англ. **old maid**, якія складаюцца з аналагічных кампанентаў.

## Філалогія

# Параўнаем

У апошні час актывізавалася работа па стварэнні тлумачальных і перакладных тэрміналагічных слоўнікаў розных спецыяльнасцей. Прыемна адзначыць, што і лінгвістычная літаратура папоўнілася: у Беластоку выдадзены Słownik terminologii lingwistycznej (białorusko-rosyjsko-polski i polsko-rosyjsko-białoruski). Яго падрыхтавалі супрацоўнікі Аддзялення ўсходнеславянскай філалогіі філіяла Варшаўскага універсітэта Эльжбета Юравец, Ян Францішак Насовіч, Лілія Панфілюк, Павел Сцяцко, Мажанна Тарасюк. Слоўнік налічвае звыш 2 тысяч найбольш пашыраных і ўжывальных слоў-тэрмінаў і тэрміналагічных спалучэнняў з галіны агульнага мовазнаўства, фанетыкі, граматыкі. Улічыўшы спецыфіку выкладання і навучання на Аддзяленні ўсходнеславянскай філалогіі, аўтары стварылі трохмоўны перакладны слоўнік, які складаецца з дзвюх частак: беларуска-руска-польскай і польска-руска-беларускай. У плане пабудовы слоўнік працягвае традыцыю перакладных слоўнікаў. У ім выкарыстаны гнездавы прынцып падачы слоў, словазлучэнняў і размяшчэнне тэрміналагічных спалучэнняў па агульнаму алфавіту. Гэта, з аднаго боку, дазваляе захаваць унутраную сувязь паміж тэрмінамі і эканомна прадставіць лінгвістычную тэрміналогію як сістэму, і, з другога боку, лёгка знайсці патрэбны тэрмін.

Спынімся на аналізе беларускамоўнага матэрыялу, папярэдне адзначыўшы, што пераважная большасць беларускіх тэрмінаў, якія падаюцца ў Слоўніку, — гэта тэрміны, што замацаваліся ў беларускіх падручніках і мовазнаўчай літаратуры і шырока выкарыстоўваюцца ў практыцы. Трэба таксама канстатаваць, што аўтары ўважліва выкарысталі вопыт і матэрыялы папярэдніх слоўнікаў лінгвістычнай тэрміналогіі, прапановы і заўвагі рэцэнзентаў.

Цяпер некалькі заўваг і меркаванняў па асобных тэрмінах.

У Слоўніку прапануюцца тэрміны *сінанімічны гурт (шэраг)* — рас. *синонимический ряд*, польск. *szereg synonimiczny, ciąg synonimiczny*, *фанемны гурт (шэраг)* — рас. *фонемный ряд*, польск. *szereg fonematyczny*. Як у расійскіх спалучэннях *синонимический ряд, фонемный ряд*, так і ў беларускіх *сінанімічны рад, фанемны рад*, якія да гэтай пары ўжываліся ў лінгвістычнай літаратуры, словы *ряд, рад* маюць значэнне сукупнасці пэўных з'яў (у даным выпадку сінонімаў, фанем), якія размешчаны ў пэўнай паслядоўнасці, у пэўным парадку, якія ствараюць адну лінію. Слова ж *гурт* у беларускай мове мае значэнне «натоўп, група людзей; статак жывёлы і пад.», гэта зн. яно ўтрымлівае значэнне сукупнасці чаго-н., аднак прадметы, з'явы не размешчаны ў пэўным парадку, не ствараюць адной лініі. Параўн.: *Ён не адзін — тут гурт цэлы, Людцоў нябачаных раней* (Я. Колас); *Бразнулі засаўкі, цэлы гурт уваліўся ў канцылярыю* (М. Лужанін). Дарэчы, на стар. 60 Слоўніка знаходзім *рад* у знач. «сукупнасць чаго-н., што размешчана ў пэўным парадку, у пэўнай паслядоўнасці» і варыянт *шэраг*. Слова *гурт* тут не даецца (і гэта правільна).

Пра слова *шэраг*, якое пададзена як варыянт да слова *гурт*, трэба сказаць, што ў беларускай літаратурнай мове *шэраг* часцей за ўсё ўжываецца ў значэнні «пэўная, звычайна немалая, колькасць чаго-н.» (*шэраг пытанняў, вобразаў, даследаванняў, артыкулаў, прыёмаў* і пад.). У значэнні «сукупнасць аднародных прадметаў, размешчаных адзін за другім, у адну лінію» сустракаецца радзей, у асноўным у спалучэнні з назоўнікамі, якія абазначаюць канкрэтныя прадметы. Напр.: *Млечны шлях выплывае з імглы, Азараючы шэраг зямлянак* (М. Танк); *Чоўнаў нерухомы шэраг* (З. Астапенка); *нізкі шэраг стрэх* (З. Бядуля), *шэраг узгоркаў, дубоў, хат, вазоў* і пад. Таму ў тэрміналагічных спалучэннях са словамі *сінанімічны, фанемны* мэтазгодна захаваць слова *рад*, якое дакладна перадае змест паняцця, замацавалася і ўжываецца ў лінгвістычнай літаратуры на працягу доўгага часу. Па гэтай жа прычыне варта даць *незамкнуты рад слоў*, замест *незамкнуты шэраг слоў* (Параўн. на стар. 8 Слоўніка *адкрыты рад.*).

Наўрад ці можна апраўдаць замену тэрміна элемента *племянны* «неалагізмам» *племевы* ў словазлучэннях *племевая мова* — рас. *племенной язык*, польск. *język plemienny*; дыялект *племевы (племенны)* — рас. *диалект племенной*, польск. *dialekt plemienny.* Ні ў слоўніках беларускай мовы, ні ў лінгвістычнай літаратуры прыметнік *племевы* не зафіксаваны. Не сустракаецца гэта слова і ў мове пісьменнікаў. Нават аўтары, а дакладней, аўтар беларускай часткі сам яшчэ не вызначыўся, што даваць — *племевы* ці *племенны*? Відаць, тут неабходна захаваць форму *племянны*: *племянная мова, племянны дыялект.*

У апошні час намецілася тэндэнцыя замены тэрмінаў з суфіксам -уч-(-юч-), -ач-(-яч-) іншымі суфіксальнымі ўтварэннямі, напрыклад, замест *дзеючая асоба — дзейная асоба*, замест *утвараючая аснова — утваральная аснова*, замест *кіруючае слова — кіравальнае (кіроўнае) слова*, замест *падаючая плынь — спадальная плынь* і інш. Аднак такая замена не заўсёды апраўдана як з боку сістэмнасці ў мове, так і з боку семантыкі. Напрыклад, у тэрміналагічных словазлучэннях *дрыжачы зычны, дрыжачы гук* слова *дрыжачы* ў Слоўніку заменена на *дрыготкі*. Па-першае, парушана словаўтваральная сувязь з іншымі тэрмінамі гэтага раду, якія маюць суфікс -ач-(-яч-): *свісцячы зычны, шыпячы зычны.* Па-другое, слова *дрыготкі* ў асноўным выкарыстоўваецца ў спалучэнні з канкрэтнымі назоўнікамі, напрыклад, *рукі, хвалі, бярозка, лісце* і пад.

Тое ж можна сказаць і пра новаўведзены тэрмін *гаворкавая асоба*. У лінгвістычнай літаратуры і папярэдніх слоўніках даецца *гаворачая асоба*, г. зн. асоба, якая гаворыць. Слова *гаворачая* суадносіцца з дзеясловам *гаварыць*. Параўн. рас. *говорящее лицо* (говорящий), польск. *mówiacy* ад *mówić* «гаварыць». Прыметнік *гаворкавая* ўтвораны ад назоўніка *гаворка*, які мае некалькі значэнняў: «размова, абмен думкамі; гукі размовы; чуткі; манера гаварыць; разнавіднасць мясцовага дыялекту; мова як сродак зносін». Не падыходзіць і слова *моўнік*, якое прапануецца ў Слоўніку ў якасці варыянта да спалучэння *гаворкавая асоба.* Абодва словы ўтвораны штучна, яны не адзначаны не толькі ў беларускай літаратурнай мове, але і ў беларускіх народных гаворках.

У прадмове да Слоўніка аўтары адзначаюць, што пры падборы слоўнікавага матэрыялу яны карысталіся «вынікамі развіцця сучасных лінгвістычных даследаванняў у вобласці параўнальнага польска-ўсходнеславянскага мовазнаўства». Пажадана было б даць у Слоўніку спіс асноўнай выкарыстанай літаратуры. Цікава, напрыклад, у якіх лінгвістычных даследаваннях ужываюцца згаданыя вышэй тэрміны *сінанімічны гурт, фанемны гурт, племевая мова, дрыготкі зычны, гаворкавая асоба* і некаторыя іншыя? Ці яны ўжываюцца наогул? Наўрад.

Нельга згадзіцца і з падачай ў Слоўніку тэрмінаў з коранем *-пазыч-* у выглядзе *(за) пазыч-*. Узнікае пытанне: які з варыянтаў (з прыстаўкай ці без яе) лічыць асноўным ці яны абодва раўнапраўныя? Гэта, па-першае. А па-другое, варыянты без прыстаўкі *за-* (*пазычаны, пазычанне, пазычванне*) у сучаснай беларускай мове адрозніваюцца ад варыянтаў з прыстаўкай *за-* па значэнні або не ўжываюцца наогул. Напрыклад, *пазычаны* — такі, які ўзяты (або дадзены) на час, які трэба аддаць, вярнуць; *пазычанне* (у Тлумачальным слоўніку беларускай мовы *пазыча́нне*) называе дзеянне паводле значэння дзеяслова *пазычаць*, г. зн. даваць каму-н. што-н. у доўг або браць у доўг, на пэўны час; слова *пазычванне* наогул не зафіксавана ў слоўніках беларускай мовы. Таму ў рэцэнзуемым слоўніку трэба было даць толькі *запазычаны* «засвоены шляхам запазычвання»; *запазычанне* — «тое, што перанята, узята адкуль-н.»; *запазычванне* — «дзеянне паводле значэння дзеяслова *запазычваць* «пераймаць, браць адкуль-н.». Дарэчы, сам тэрмін *запазычыць, запазычаць, запазычваць* у Слоўніку адсутнічае.

Зніжае навуковую вартасць Слоўніка адсутнасць націску ў беларускім (і расійскім) матэрыяле. Для студэнтаў-небеларусаў не заўсёды лёгка вызначыць націск у словах, напрыклад: *аднасастаўны, аксюмаран, алфавіт, атлас, генітыў, ётацыя, ётаваны, імя, незамкнуты, прыступ, развіты, слабы* і многіх іншых.

Непаслядоўна праведзена ў Слоўніку падача варыянтаў. Напрыклад, на стар. 33 *зычны гук дрыготкі* (*вібрант*), а пры словазлучэнні *дрыготкі зычны* варыянт *вібрант* не даецца; на стар. 25 і 28 даецца *дадатковы націск*, а на стар. 91 пры польск. *akcent poboczny* даецца *пабочны (дадатковы) націск*; на стар. 54 — *пастаянны (сталы) націск*, а на стар. 91 пры польск. *akcent stały* даецца *сталы (фіксаваны) націск*; *аднакаранёвыя (аднакарэнныя)* словы на стар. 9, а на стар. 155 даецца толькі *аднакаранёвыя словы*; на стар. 6 *абласное слова* — рас. *областное слово*, польск. *wyraz regionalny, regionalizm*, а на стар. 134 пры польскім *regionalizm* даецца бел. *рэгіянальнае слова, рэгіяналізм*, якіх у беларуска-руска-польскай частцы няма; пры польск. *personifikacja* даецца бел. *увасабленне (персаніфікацыя)*, а пры бел. *увасабленне персаніфікацыя* не даецца, няма гэтага слова і ў агульным алфавіце.

На жаль, у Слоўніку знаходзім і памылкі друку, напр. *каньюнктыў* замест *кан'юнктыў*, *эвфемізмы* замест *эўфемізмы*, *эвфанія* замест *эўфанія* і некаторыя іншыя.

Улічваючы неабходнасць такога спецыяльнага слоўніка ў практыцы навучання, можна спрагназаваць яго хуткую рэалізацыю, і таму пажадана было б, каб аўтарскі калектыў у будучай працы па перавыданні пазбягаў замены ўвайшоўшых у лінгвістычную практыку тэрмінаў на новыя. А калі гэта ўсё ж неабходна, то патрэбна імкнуцца да таго, каб змест паняцця, рэаліі ўкладваўся ў лексічнае значэнне прапануемага новага слова ў якасці тэрміна. Пажадана таксама, каб у Слоўніку лінгвістычная тэрміналогія была зафіксавана больш поўна.

**Ганна АРАШОНКАВА.**

## Чыталі?

# «Літва»

Такую назву атрымала новае перыядычнае выданне, два нумары якога былі надрукаваны сёлета ў Менску намаганнямі невялікага кола прыватных асобаў — стваральнікаў і выдаўцоў штомесячніка.

Чаму беларускамоўнае культурна-асветніцкае выданне атрымала такую, як можа камусьці падацца, далёкую ад беларушчыны назву, тлумачыцца ў рэдакцыйным артыкуле, змешчаным у першым нумары выдання. «Мы — нашчадкі Вялікіх Ліцьвінаў, спакаемцы Вялікай Літвы... Мы перакананыя: пакуль нашыя спрадвечныя назовы ня зоймуць сваё месца, пакуль жыхары сёньняшняе Рэспублікі Беларусі не ўсьвядомяць, што ў іх жылах цячэ кроў продкаў-ліцьвінаў, — да таго часу немагчыма весьці сур'ёзную размову пра адбудову Дзяржавы. Карыстаньне назовамі, якія навязаныя нам захопнікамі, ёсьць працягам духовага рабства й маўкліваю згодаю на далейшую акупацыю». Гэтая цытата дазваляе зразумець, чаму стваральнікі «Літвы» нават мову свайго выдання вызначылі як літоўскую.

Гэта — аб назвах. Што датычыць зместу «Літвы», дык яе рэдакцыя найбольш увагі абяцае прысвячаць пытанням гісторыі народа, дзяржавы і царквы нашага краю. Частка выдання мае быць прысвечана пытанням мовазнаўства, культуры і мастацтва, інфармацыі аб рэлігійных канфесіях і


LITVA

LITHUANIA

Адам МІЦКЕВІЧ

Рэдакцыйны зварот

патрыятычных арганізацыях Беларусі (пачынаючы з першага нумара «Літва» друкуе матэрыял, прысвечаны гісторыі створанай 23 лютага 1944 года Беларускай Краёвай Абароны).

Акрамя таго, асобным блокам, як абяцана ў першым нумары, будзе падавацца бібліяграфія ды передрукі найбольш цікавых артыкулаў з іншых выданняў ды інфармацыя пра самыя гэтыя выданні.

Адметная і моўная канцэпцыя выдання: акрамя традыцыйных кірыліцы і лацінкі, у ім будзе выкарыстоўвацца арабская графіка для перадруку створаных гэтай графікай беларускіх тэкстаў.

Гэтак уяўляюць стваральнікі выдання будучыню «Літвы». Якой будзе яна ў сапраўднасці? Пакуль што новы «сродак масавай інфармацыі» ўяўляе сабою адну альбо дзве старонкі тэксту, фармату А4, набранага і змакетаванага на кампутары і тыражаванага на ксераксе, што надае яму выгляд самвыдатаўскай улёткі савецкага часу. Наклад выдання невялікі, распаўсюджваецца яно прыватным чынам. Не спрыяе папулярнасці выдання і змест яго публікацый — вельмі патрыятычных, але маючых выгляд хутчэй не газетных матэрыялаў, а курсавых работ студэнтаў-гісторыкаў.

«Адзінай ідэяй, здольнай аб'яднаць значную частку нашага.. народу можа стаць, на наш пагляд, толькі Дзяржаўная ідэя. Дзеля распрацоўкі аднаго з паглядаў на яе рэалізацыю й было задумана выданьне «Літва». Гэта — яшчэ адна цытата з рэдакцыйнага звароту. На жаль, выданне ў сённяшнім сваім выглядзе наўрад ці здолее хоць неяк паўплываць на стаўленне грамадства да пытання дзяржаўнасці Беларусі. Але **каштоўнасць «Літвы» ў іншым: яе стварэнне — сведчанне існавання новага пакалення беларусаў, гатовых абараняць інтарэсы свайго народа і сваёй дзяржавы.**

Дзякуй, «Літва»!

**У. П.**

